# Аладзін

Аладзін пашараваў чароўную лямпу і папрасіў, каб яна зрабіла яму вялікі чэлес. Аладзін верыў у сілу памераў, верыў у тое, што вялікаму чэлесу не адмовіць ніводная похва. І чароўная лямпа зрабіла Аладзіну конскі чэлес.

Шчаслівы гаспадар магутнага чэлеса накіраваўся ў палац да прынцэсы Зумруд. Але тая нават не захацела паглядзець на вялізны чэлес. Калі яна пачула пра яго конскі памер, дык адразу і прагнала Аладзіна.

Збянтэжаны, прыніжаны і абражаны, ён прыйшоў на бераг мора і паклікаў Русалку. Тая таксама адмовілася глядзець на вялізны чэлес. Тады Аладзін панёс чэлес да Дзюймовачкі. Яна ўважліва агледзела шыкоўны орган і параіла вярнуцца да чароўнай лямпы, пацерці яе і зрабіць чэлесу чалавечы памер, бо так у Аладзіна будзе больш шанцаў спадабацца прынцэсе Зумруд.

Аладзін палашчыў чароўную лямпу і загадаў вярнуць сабе чалавечы чэлес, а прынцэсе Зумруд, Русалцы і Дзюймовачцы падараваць па вялікім букеце свежых руж.

# Алавяны салдацік і папяровая балерына

У Алавянага салдаціка ўсё было з волава: і думкі, і жаданні, і каханне. Алавянае каханне салдацік вырашыў прапанаваць Папяровай балерыне. У той усё чыста было з белай паўпразрыстай паперы. Паўпразрыстая балерына сказала салдаціку, што ёй не падабаецца металічнае каханне з алавяным чэлесам, што яе папяровая похва пачакае сапраўднай папяровай любові, бо ў каханні ўсё мусіць быць гарманічным і адпаведным, і што ў Алавянага салдаціка і каханка мусіць быць алавяная, з алавянымі губамі, з алавянымі цыцкамі і алавяным секелем. Салдацік зазлаваў і згвалціў балерыну; а яна пачакала, пакуль ён засне цяжкім і непабудным алавяным сном, і расплавіла яго паяльнай лямпай.

# АЛІ-БАБА І СІМ-СІМ

Алі-Баба прыйшла да свайго сябрука, чарадзейніка Сім-Сіма, і сказала: «Не хачу больш быць Алі-Бабай – хачу звацца Алі-Дзедам і выглядаць як Алі-Дзед!» Сябрук заўсміхаўся і зрабіў з Алі-Бабы Алі-Дзеда, сівога і нямоглага.

Алі-Дзед падзякаваў Сім-Сіму і сышоў, але праз тры дні вярнуўся: «Не хачу больш быць нямоглым і старым Алі-Дзедам – хачу стаць Алі-Мужыком!» Усміхнуўся чарадзейнік і зрабіў з Алі-Дзеда зараслага валасамі Алі-Мужыка.

З таго моманту Алі-Мужыку даводзілася стрыгчыся і галіцца па два разы на дзень, бо чорныя кучаравыя валасы раслі на ім паўсюль. І на носе раслі, і на лбе, і на вушах, і пад вачыма, і на далонях, і на залупе, і на пятах… Таму Алі-Мужык папрасіў Сім-Сімаператварыць яго ў Алі-Хлопца. І Сім-Сім зрабіў з Алі-Мужыка мілатварага Алі-Хлопца. Той зірнуў у люстэрка і пабачыў тамака не Алі-Хлопца, а прыгажуню – Алі-Дзяўчыну. «Нешта не так?» – папытаў Сім-Сім у Алі-Хлопца. «Нешта дзявочае з’явілася ў маім твары. Ці можна гэтае дзявочае вы-

правіць на хлапечае?» – «Зробім!» – паабяцаў Сім-Сім і зрабіў на твары хлопца вусы. Стаў той трансгендар баксёрам і назваўся Мухамедам Алі.

# АРФЕЙ І АПАЛОН

Арфей спяваў. Спяваў так, што людзі спыняліся, каб яго паслухаць. І не толькі людзі: спыняліся паслухаць яго звяры і пташкі, ручаіны і рэчкі, сонца і месяц. Нават паўбагі і багі нямелі, калі спяваў Арфей. Толькі бог Дыяніс не любіў песняра Арфея, лічыў яго спевы шкоднымі, бо паўбагам і багам, сонцу і месяцу, звярам і пташкам усё, акрамя спеваў Арфея, рабілася малапатрэбным. Таму Дыяніс паклікаў каханак, загадаў ім заляпіць вушы воскам і знайсці і разарваць на кавалкі чарадзейнагалосага песняра.

Каханкі знайшлі і разарвалі Арфея, а кавалкі яго парванага цела кінулі ў рэчку Гебр. Галава Арфея плыла па рэчцы і спявала, а побач з галавой плыў чэлес Арфея. Ён плыў і падсвістваў чарадзейным песням. Бог Апалон пачуў чарадзейныя спевы адарванай галавы і чарадзейны свіст адарванага чэлеса і дастаў галаву Арфея з рэчкі Гебр. Бог Апалон вылатаваў песняра і вярнуў цэласнасць ягонаму целу. Арфей вярнуўся ў чалавечае жыццё, але яго спевы ўжо не мелі ранейшай чарадзейнасці, яны сталі звычайнымі. Добра, што нават самыя звычайныя спевы радуюць звяроў і пташак, сонца і месяц, паўбагоў і багоў.

# Арыель і Бульвіра

Арыель сеў на лаўку у парку, зняў бейсболку і паклаў побач з сабой. Стаяў такі цёплы верасень, што на сонцы можна было і нос спаліць. Таму Арыель хадзіў у бейсболцы, а ў цяністым парку зняў яе і паклаў на лаўку – і не заўважыў, што выпадкова накрыў шапкай махаона, які грэўся на вераснявым сонцы. Махаон тут жа папрасіў Арыеля вызваліць яго з-пад бейсболкі, а за гэта паабяцаў падарыць каробачку з чарадзейнымі таблеткамі. Калі Арыель праглыне адну з падораных таблетак, усё кепскае выпарыцца, вытхнецца і выветрыцца з яго, Арыель зробіцца чыстым і лёгкім, лягчэйшым за паветра, і зможа лётаць цягам трох гадзін.

Хлопец падняў шапку – матылёк узняўся ў вераснёвае паветра, а на лаўцы з'явілася каробка з таблеткамі. Арыель вярнуўся дамоў, зайшоў у лазенку і, гледзячы ў люстэрка, праглынуў адну таблетку. Хлопец убачыў, як усё цяжкае і кепскае выпарваецца і выветрываецца з яго. У целе з'явілася лёгкасць. Арыель прыняў душ, апрануўся па-святочнаму, ціхенька ўзняўся над падлогай і абляцеў пакой. Потым выйшаў на балкон, узняўся высока ў неба і там доўга лётаў, радуючыся цяплу і лагодна-

му вераснёваму сонцу. У той дзень у Арыеля абгарэў нос, бо ён лётаў у святочным гарнітуры, да якога зусім не пасавала бейсболка.

Каб загаіць абпалены нос, Арыель пайшоў у аптэку. Там ён папытаўся, чым лепш за ўсё загаіць апёкі. Аптэкарка параіла пантэнол. Арыель змазаў нос пантэнолам і прапанаваў аптэкарцы схадзіць з ім на спатканне. Тая пагадзілася.

У парку Арыель расказаў аптэкарцы Вульвіры пра махаона і палётастваральныя таблеткі. Вульвіра выцыганіла ў Арыеля адну таблетку, і яны разам узняліся ў начное неба. І там, пад белымі зорамі, злюбіліся.

Раз на тыдзень Вульвіра і Арыель уздымаліся ў неба, каб палётаць і пакахацца. Кахаліся і лёталі, лёталі і кахаліся, пакуль не скончыліся таблеткі. Тады Арыель прапанаваў Вульвіры разам зайсці на высозны гмах, узяцца за рукі і скочыць з яго, бо жыццё без кахання ў палёце зрабілася прэсным, змрочным і непатрэбным.

Вульвіра і Арыель узняліся на гмах, узяліся за рукі і разам скочылі з яго. Усё кепскае і бруднае раптам выпарылася і выветрылася з каханкаў – і яны ператварыліся ў матылькоў, зрабіліся вялікакрылымі махаонамі і закруціліся ў танцы свайго абноўленага кахання.

# АФРА-ДЫТА

У юнацтве Афра-Дыта мела выключную знешнасць. Усе захапляліся яе прыгажосцю. Усе лічылі за гонар сфатаграфавацца з надзвычайнай Афра-Дытай. Яна заганарылася, перастала сачыць за сабой: і так усё выдатна. Тое выдатнае з часам ператварылася ў добрае, а тое добрае стала пасрэдным, а пасрэднае змянілася на кепскае. Дупа Афра-Дыты зрабілася падобнай на кардонную скрыню з-пад гароднiны, а цыцкі, якія раней былі трэцяга памеру, займелі сёмы памер і выглядалі як сабачыя вушы – смочкі ляжалі на пукатым жываце ўжо ніжэй за яміну з пупком.

І вось надышоў дзень, калі Афра-Дыта вырашыла, што ёй трэба кардынальна змяніцца ў лепшы бок. Па дарозе з жоўтай цэглы яна пайшла ў Смарагдавы горад. Там Афра-Дыта сем дзён прастаяла ў чарзе да Чараўніка, потым папрасіла яго прыбраць з яе цела пукаты жывот, вярнуць цыцкам трэці памер і зрабіць дупу прывабнай. Чараўнік сказаў, што можа выканаць толькі адно жаданне Афра-Дыты. Тады яна падумала-падумала і папрасіла, каб Чараўнік да-

даў ёй крыху мазгоў. Той дадаў Афра-Дыце мазгоў, і яна села на дыету.

За які год працы над сабой Афра-Дыта вярнула сабе цалкам нармальнае цела. Канешне, маладосць не вярнулася да яе, але шмат хто ў Смарагдавым горадзе зноў просіць дазволу, каб засэлфіцца побач з паразумнелай і абноўленай Афра-Дытай.

# БАГІРА

Пантэра Багіра ўзняла хвост. Бог джунгляў пабачыў, як Багіра ўздымае хвост, і спыніў дождж. Тыгр Шэрхан пабачыў, што Бог джунгляў спыніў дождж, і спытаў у шакала Табакі: «Чаму спыніўся дождж?» Шакал пабег да Бога джунгляў і даведаўся, чаму той спыніў дождж. Табакі вярнуўся да Шэрхана і радасна паведаміў: «Багіра задрала хвост!»

Шэрхан пайшоў і пабачыў задраны хвост гнуткай пантэры і яе ружовую похву. «Зараз наш вялікі Шэрхан трахне нашу прыгажуню Багіру! Глядзіце, джунглі!» – прабрахаў Табакі. Тыгр падышоў да пантэры, памуркаў і загнаў напяты чэлес у кветку похвы. Джунглі ўзрадаваліся. Тыгр трахае пантэру. Ура!

Пантэра і тыгр натрахаліся да стомы, да гарачыні ў сэрцах, да непрытомнасці. Бог джунгляў пабачыў, што Багіра апусціла хвост, і дазволіў дажджу зноў пасыпацца з нізкай хмары на зялёную зямлю.

# Бурацінi

Драўляны хлопчык Бурацінi прыбег да таты Карла і сказаў: «Тата мой Карл, у мяне праблема... Дарога ў школу праходзіць каля секс-шопа. Як толькі пабачу ў яго вітрыне ляльку Мальвіну, у мяне паміж ног вырастае сучок. Ён робіцца такім жа доўгім, як мой нос. Гэты сучок і падраў мае папяровыя шорты. Тата Карл, зрабі мне новыя шорты з кардону, каб сучок не мог іх падраць...» – «Сынок мой Бурацінi, я зраблю табе шорты з гіпсакардону і навучу ўтаймоўваць сучок. Як пабачыш Мальвіну і твой сучок пачне павялічвацца, ты падумай не пра любоў з Мальвінай, а пра бізун гаспадара секс-шопа Кіл-Баса Бара-Баса. Падумай пра чорны бізун, якім Бара-Бас лупіць непаслухмяных школьнікаў і школьніц, што затрымліваюцца каля вітрыны яго магазіна. Успомні, як свішча бізун Кіл-Баса над дзіцячымі галовамі. Ад такіх думак твой сучок зноў стане маленькім і не падзярэ гіпсакардонныя шорты».

# Венера і Гігант

Гігант убачыў багіню Венеру і закахаўся. Ён так моцна закахаўся, што папрасіў яе стаць гэткай жа вялікай, як ён, бо інакш яны не змогуць пазаймацца сексам. Венера – багіня, і з самай прыгожай жанчыны на свеце яна лёгка ператварылася ў гэткую ж вялікую, як Гігант. Венера проста на вачах ператварылася ў раздзьмутую страхалюдзіну. Метамарфоза так напалохала Гіганта, што ён не стрымаў свайго глыбокага расчаравання: «Венера, ты ператварылася ў пачвару! Куды знікла твая непараўнальная жаноцкасць? Дзе падзелася твая п’янкая прывабнасць?» Багіня не даравала Гіганту такой абразы: яна ўдарыла яго вастрадзюбай маланкай у вока і зрабіла з яго чорнагаловага і танканогага мураша. Пасля няўдалага з усіх бакоў флірту Венера вярнулася ў свой звычайны памер самай прывабнай жанчыны на белым свеце.

## Віні-Пых

«Пятачок, сёння пятніца, і нам варта адведаць бардэль!» – сказаў мядзведзь Віні-Пых свайму найлепшаму сябруку кабанчыку. «Віні, я ніколі не быў у бардэлі, але з радасцю падтрымаю кампанію…»

Мядзведзь Пых і кабанчык Пятачок выправіліся ў лясны бардэль. Яны доўга блукалі па лесе і тройчы выходзілі не да бардэля, а да лясной бібліятэкі. «Віні, мы з табой ідзём у бардэль, а ўжо трэці раз выходзім да бібліятэкі. Давай пойдзем у бібліятэку, можа, тады мы і патрапім у лясны бардэль…» Пятачок і Пых пайшлі ў бібліятэку і патрапілі ў самы сапраўдны бардэль, дзе кабанчык пазабаўляўся з прыгажуняй свінкай, а мядзведзь – з маладой ласкавай мядзведзіцай. Па дарозе дадому Пятачок і Віні-Пых дамовіліся і ў наступную пятніцу пайсці ў публічную бібліятэку да свінкі і мядзведзіцы.

# ГАРОХАВАЯ БАБА

Дзятве хацелася гароху, бо ён салодкі. Таму дзеці, вяртаючыся на роварах з грыбоў, заехалі на гарохавае поле. Хто ж ведаў, што на тым полі жыве Гарохавая баба. Пра яе ў мястэчку раней ніхто нават і не чуў. Каб нехта расказаў пра зялёную, падобную да рапухі бабішчу, чыя скура спрэс зарасла гарошынамі барадавак, можа, дзеці і не палезлі б у той гарох. Яны палезлі, бо гарох паспеў і быў усё яшчэ мяккім і салодкім-салодкім. Дзятва лушчыла струкі і закідала ў рот гарошынкі, калі раптам пасярод поля паўстала Гарохавая баба. Яна зараўла страшным голасам і прымусіла ўсіх дзяцей яе аблізваць. Дзеці ўсю яе і аблізвалі… Яны лізалі рукі, і ногі, і жывот, і дупу, і похву Гарохавай бабы. Тая абяцала адпусціць усіх, хто паліжа яе зялёную похву і пяшчотна-салатавы секель.

Адпусціла Гарохавая баба аднаго Каруся Кагановіча, які не лізаў похву і не краў з поля смачны гарох. У бацькоўскім гародзе Каруся Кагановіча раслі і гарох, і боб. Карусь больш любіў боб, а таму чакаў сяброў на беразе гарохавага мора. Толькі ён іх не

дачакаўся, бо Гарохавая баба затаптала цёмна-зялёнымі пятамі ўсіх, хто паласаваўся крадзеным гарохам. Карусю Гарохавая баба наказала распавесці ўсяму мястэчку пра здарэнне на гарохавым полі, так я і даведаўся пра Гарохавую бабу з зялёнымі, як вясновая трава, вачыма.

# ГЕРАКЛ І КАРЛСАН

Хлопчык падараваў таўстуну Карлсану, які жыве на даху, кнігу «Міфы Старажытнай Грэцыі». Карлсан прачытаў гісторыі пра подзвігі Геракла і закахаўся ў героя так, што мог гаварыць і думаць толькі пра яго. Тады Хлопчык сказаў свайму тоўстаму таварышу, што яго кумір Геракл прыехаў у Швецыю і адпачывае на выспе Готланд. Карлсан неапісальна ўзрадаваўся. Сам Геракл прыехаў з Грэцыі ў Швецыю! Вось яно, шчасце. Карлсан набыў у ювелірнай краме залатую ружу, каб падараваць куміру, завёў наспінны прапелер і паляцеў са Стакгольма на Готланд.

Палёт над халодным морам быў такі цяжкі, што тоўсты Карлсан схуднеў ажно на сем кілаграмаў. Але на Готландзе яго чакала неспадзяванка: каханага Геракла там не было. Усе смяяліся з Карлсана, калі ён пытаўся пра свайго куміра. І не проста смяяліся, а яшчэ і казалі, што ў сапраўднасці ніякага Геракла няма, што ён – герой міфаў, казак, кіно.

Карлсан, з каштоўнай ружай у кішэні, вярнуўся з Готланда ў Стакгольм і спытаў у Хлопчыка: «Чаму ты мяне так жорстка падмануў?» – «Дарагі Карлсан, ты ха-

цеў скінуць дваццаць лішніх кілаграмаў. Ты спрабаваў пахудзець, але не мог. А тут у цяжкіх палётах над ледзяным морам ты моцна схуднеў, скінуў лішнюю вагу і цяпер цудоўна выглядаеш. Дзеля гэтага я і падмануў цябе…» Карлсан крыўдаваў на хлопчыка роўна тры дні, а потым крыўдаваць перастаў і вярнуў залатую ружу ў ювелірную краму.

# Грант

У ціхую сінюю ноч капітан Грант сустрэў каханую, паказаў ёй сваю падзорную трубу і сказаў: «Бачыце гэтыя буйныя зоркі, ясныя зоркі Геркулеса? Да іх ляціць наша сонца, і нясецца за сонцам зямля. Хто мы такія? Толькі падарожныя – папутнікі сярод нябёс. Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?.. Бачыце гэтую маю падзорную трубу? Яна цяпер не толькі мая, але і ваша. Мы разам паляцім да зоркі Венеры».

# Гулівер

Гулівер закахаўся ў Ліліпутачку. На мініяцюрную каханку ён гадзінамі глядзеў праз павелічальнае шкло. Ліліпутачка танцавала для каханага стрыптыз. Пасля аднаго з такіх эратычных і спакушальных танцаў Гулівер зразумеў марную марнасць няроўнага кахання, пакінуў Рэспубліку Ліліпутыю і выправіўся ў Імперыю Веліканію. Там у яго закахалася Веліканша. Яна таксама разглядала маленечкага каханка праз павелічальнае шкло, а ён выконваў для яе танцы з распрананнямі. У час эратычнага танца Веліканша сама распранулася і паказала Гуліверу велізарныя вабноты. Той, пабачыўшы ружовую пячору вільготнай пахвы, вырашыў не спакушаць лёс, апрануўся і назаўжды сышоў з Веліканіі. Вяртаючыся дадому, Гулівер падумаў, што ў гульнях з каханкамі нельга выкарыстоўваць такую прыладу, як павелічальнае шкло.

# ДРАКУЛА

Граф Дракула заўжды галоднакроўны.

# ДРАКУЛА І СТО ГРАМ

Дракула пагадзіўся даць інтэрв'ю з умовай, што тэлевядучая Хрысціна адшкадуе яму сто грам крыві і дазволіць пазаймацца з ёй традыцыйнымі любошчамі. Любошчамі Дракула пазаймаўся, а нацэджаную ў чарку кроў яму паабяцалі выдаць адразу пасля размовы…

«Спадар Дракула, які ваш любімы колер?» – «Чырвоны…» – «Вы, спадар Дракула, каштавалі кроў чырвонаармейцаў?» – «Каштаваў…» – «Якая яна на смак?» – «Такая ж, як і ў камуністаў…» – «Кроў анархістаў моцна адрозніваецца ад крыві камуністаў?» – «У анархістаў кроў чорная…» – «А ці смачная?» – «Так, яна для мяне смачная, такая ж смачная, як і ружовая кроў феміністак…» – «Спадар Дракула, няўжо вы каштавалі кроў феміністак?» – «Каштаваў. І зараз зноў пакаштую… Нясіце абяцаныя сто грам крыві Хрысціны…» – «Спадар Дракула, дык мы ж не скончылі інтэрв'ю, у нас яшчэ цэлыя тры хвіліны…» – «Хрысціна, ты хочаш, каб я выпіў не сто грам тваёй крыві, а цэлых трыста?» – «Не!»

Рэжысёр прынёс у студыю стограмовік, поўны крыві, і граф Дракула спустошыў яго адным глытком.

# ДУШЫ

Сівы дзед Баляслаў Квас ехаў у метро. Паміж станцыямі «Плошча Перамогі» і «Кастрычніцкая» душа праз рот выплыла з цела Баляслава. Праплыла па вагоне і спынілася над галавой студэнткі Любові Тук. Вольная душа павісела хвілінку, а потым праз правую ноздру соннай студэнткі заляцела ў маладое цела. Двудушнай Любоў Тук пабыла нядоўга, бо душа старога Баляслава прагнала з цела душу Любові Тук. Выгнаная з цела душа паляцела па вагоне і пабачыла, што дзед Баляслаў Квас ляжыць на падлозе мёртвы. Сяліцца ў мёртвае цела не мела сэнсу – і вольная душа вылецела з цемнаватага метро ў светлы красавіцкі сквер. У пяшчотна-зялёным скверы душа села на вершаліну высокага клёна, каб адпачыць і падумаць: як жыць-быць далей?

# Жалезны дрывасек

Жалезны дрывасек прыехаў у Смарагдавы горад да Чараўніка. Чарга да яго была такой доўгай, што ў ёй давялося прастаяць тыдзень. Жалезны дрывасек усё ж дачакаўся запрашэння і завітаў на прыём у Смарагдавы палац. Чараўнік спытаў пра таемнае жаданне, якое прывяло Жалезнага дрывасека з лесу ў палац.

«Усе ведаюць мяне як дрывасека, а я ж не толькі вядомы і спраўны дрывасек – я яшчэ магутны дрэваёб. Ябу розныя дрэвы ў розныя дуплы. Сёлета я закахаўся ў ідэальнае дупло Высокай сасны, а ёй не спадабаўся мой халодны тонкі металічны чэлес. Таму я вырашыў папрасіць цябе, вялікага Чараўніка са Смарагдавага горада, памяняць мой тонкі металічны чэлес на тоўсты драўляны…» Чараўнік памяняў чэлес Жалезнага дрывасека на дубовы чэлес свайго целаахоўніка.

Праз тры дні ў Смарагдавы горад да Чараўніка ў палац прынеслі тэлеграму са словамі ўдзячнасці ад Высокай сасны.

# ЖЫВЫЯ НЯБОЖЧЫКІ

Каля станцыі метро «Кастрычніцкая» Алесь убачыў перакладчыка Жыжаля. Алесь дакладна ведаў: Жыжаль гадоў дзесяць як памёр. Алесь зрабіў выгляд, што не пазнаў Жыжаля, а той таксама не павітаўся.

На платформе станцыі «Купалаўская» Алесь сустрэў выкладчыка Сароку. Той убачыў, што яго заўважылі, але зрабіў выгляд, што ведаць не ведае Алеся. Той на пахаванне Сарокі не хадзіў, але туды хадзілі яго сябры, якія распавядалі ў дэталях і пра пахаванне, і пра жалобны стол, і пра словы ўдзячнасці да нябожчыка Сарокі.

Побач з уваходам на станцыю «Акадэмія навук» Алесь сутыкнуўся з паэтам Граховічам. Той ішоў праспектам і гучна пастукваў кульбай. Граховіч любіў гуляць, пастукваючы дубовай кульбай. Любімую кульбу паэту паклалі ў труну. Алесь гэта бачыў на ўласныя вочы, бачыў Граховіча ў труне, бачыў у труне і лакіраваную кульбу.

Пра сустрэчы з трыма жывымі нябожчыкамі мне сам Алесь і расказваў. Праўда, быў ён тады на добрым падпітку.

# ІКАР І АБЛАЧЫНКА

Ікар ляжаў на зялёнай траве і глядзеў у сіняе неба. У глыбокай сінечы з’явілася Аблачынка. Яна была такой белай, чыстай і прывабнай, што Ікар адразу закахаўся ў яе. Ён дастаў з хованкі вялікія крылы, зробленыя з воску і пёраў, надзеў іх на рукі і ўзняўся ў неба. У высокім небе Ікар прызнаўся Аблачынцы ў вялікім каханні. Аблачынка сказала, што ёй падабаецца вялікакрылы Ікар. Яны закруціліся ў віхурыстым танцы. Яны ляцелі і танцавалі, ляцелі і цалаваліся, ляцелі і любіліся. Яны не заўважылі, як падляцелі да сонца блізка-блізка, так блізка, што воск на крылах расплавіўся, пёры паразляталіся ў розныя бакі – і Ікар каменем паляцеў з неба ў мора-акіян.

Ён падаў і думаў пра кароткае шчасце. Ён быў гатовы прыняць смерць у цёмнай вадзе мора-акіяна, але лёс быў літасцівы да Ікара. Над самай вадой Аблачынка падхапіла Ікара і панесла над хвалямі да камяністага берага. Яна данесла свайго каханага да берага і расплакалася ад шчасця. Аблачынка расплакалася і ўся чыста пралілася слязьмі на зялёную траву. Так і скончылася гісторыя кароткага нябеснага кахання Аблачынкі і Ікара.

# Каін

Ёсць версія, што Каін забіў Авеля, бо той расказаў стары анекдот. У мяне ёсць яшчэ адна версія пра нагоду для старажытнага братазабойства... Каін ударыў у скронь і забіў брата Авеля, бо той перасыпаў свае маналогі састарэлымі і сто разоў чутымі прыказкамі ды прымаўкамі.

# Кай

Снежная каралева спакушала Кая марожаным. У яе быў апарат, які рабіў найсмачнейшае марожанае ў свеце. Яно было салодкім-салодкім і са смакам вяршкоў. З апарата марожанае накладалася ў вафельны ражок. Каралева частавала Кая гэтым прысмакам штодня. Хлопчык еў марожанае са смакам салодкіх вяршкоў і складаў з празрыстых ільдзінак і сняжынак слова «вечнасць».

Так было, пакуль у Снежнае каралеўства не завітала дзяўчынка Герда. Яна прыйшла з горада, дзе некалі жыў Кай, каб расказаць яму пра дом і родны горад. Герда знайшла Кая і прапанавала яму вярнуцца разам з ёй дадому. Скажам праўду, дзяўчынка Герда прыйшла ў Снежнае каралеўства, каб вярнуць хлопчыка Кая дамоў. Прынамсі, так яна казала. Кай паглядзеў на мілавідную Герду, успомніў свой горад, свой дом і сказаў, што пойдзе дадому, але спачатку пакажа Гердзе вафельны ражок і пачастуе яе найсмачнейшым у свеце марожаным.

Кай завёў Герду да апарата, зрабіў ёй вялікую порцыю марожанага і прапанаваў лізнуць. Як толькі Герда ўзяла ў руку вафель-

ны ражок і лізнула салодкае марожанае, яе сэрца замерзла і анямела. Герда з анямелым сэрцам засталася ў Снежным каралеўстве складаць з ільдзінак і сняжынак слова «вечнасць» для Снежнай каралевы, а Кай вярнуўся дамоў у родны горад.

# КАЛАБОК, БУЛАЧКА І ГЛОБУС

Калабок убачыў Булачку і закахаўся. У Булачкі такія румяныя шчочкі, такі акуратны носік, такая апетытная дупка… У Калабка што? Адзін гладкі лоб. Пакаціўся Калабок па дарозе – шукаць штуку, якой можа спакусіць Булачку. Каціўся ён, каціўся і сустрэў на дарозе Глобуса. Спыніўся Калабок ды кажа: «Шаноўны браце Глобус, ты такі ж круглы, як і я. Мо ты мне дапаможаш?» – «Як гэта я магу табе дапамагчы, браце Калабок?» – «Закахаўся я ў Булачку, а не маю чым яе спакусіць. У цябе, браце Глобус, ёсць стрыжань. Можа, ты пазычыш мне стрыжань, я спакушу Булачку, мы згуляем вяселле, а пасля я вярну табе твой сталёвы стрыжань…» – «Добра, браце Калабок, я пазычу вам на вяселле стрыжань…»

Булачка спакусілася на стрыжань, і Калабок згуляў з ёй шыкоўнае вяселле на сто гасцей, а потым вярнуў стрыжань брату Глобусу. Цяпер, калі Булачка засумуе, яна крадком, каб толькі Калабок не бачыў, ходзіць да брата Глобуса на стрыжань. Так яны ўтраіх і жывуць, салодкі мак жуюць.

# КАМАР НАСАТЫ ТВАР

На хутар да сям'і Ладаўшчукоў заляцеў Камар Насаты Твар. Ён быў сапраўдным веліканам, большым за чалавека, большым за магутнага Ладака Ладаўшчука, які працаваў на чыгуначнай станцыі грузчыкам. Камар схапіў лапамі пеўня, прабіў носам птушыныя грудзі і высмактаў з яго кроў. Потым выпіў усю кроў з індыка. За індыком абяскровіў авечку з бараном і цялятка з каровай. З жывых на хутары засталіся толькі людзі – Ладаўшчук з жонкай і дачкой. Камар не пагрэбаваў нават сабачай і кацінай крывёй.

Хутаранам здавалася, што паратунку няма, што Камар-вампір высмакча і ўсю чалавечую кроў, але дачка грузчыка, малая Тоня, знайшла выйсце з бяды. Яна расклала на падворку вялікае вогнішча і стала каля яго з паходняй у руцэ. Калі Камар Насаты Твар вылецеў з хлява на падворак, Тоня паходняй падпаліла яго тонкія крылы. Полымя ўвобмільг ахапіла крывасмока. Абгарэлага веліканa смелая Тоня папхнула ў вогнішча. Камар Насаты Твар згарэў так, што ад яго нават следу не засталося. Таму хутаранам Ладаўшчукам ніхто не паверыў, калі яны расказвалі знаёмцам з чыгуначнай станцыі пра вялізнага Камара-вампіра.

# Кант

Падлеткам Янка апынуўся каля магілы Імануіла Канта. Экскурсаводка расказала, што Кант быў пунктуальным педантам і ўсё рабіў паводле плана. Калі Імануіл Кант выходзіў на штодзённы шпацыр па Кёнігсбергу, па ім можна было звяраць гадзіннік. Гэта ўразіла школьніка Янку, і ён пачаў ставіцца да сваіх планаў і да свайго часу з павагай і сур'ёзнасцю. Таму Янка нават праз шмат гадоў змог заўважыць, што нехта крадзе яго час…

Пенсіянер Янка рабіў ранішнюю зарадку. Ён усё жыццё старанна рабіў розныя практыкаванні. Янка нахіліўся, узняўся і заўважыў, што гэты ягоны нахіл рабіўся ажно пяць хвілін.

Наступнай раніцай зноўку на самы звычайны нахіл сышло пяць хвілін. Янка вырашыў, што сапсаваліся ходзікі. Ён занёс іх да майстра. Той выслухаў гісторыю, пільна агледзеў механізм і параіў схадзіць да знахара, бо механізм старых ходзікаў быў у ідэальным працоўным стане.

Знахар спытаў у Янкі, якім чынам да яго патрапілі ходзікі, па якіх можна заўважыць

крадзёж часу. Янка шчыра распавёў цікаўнаму знахару пра свайго настаўніка, які раптоўна памёр за два гады да таго. З усёй спадчыны настаўніка Янку перадалі адпрасаваную старую насоўку і жывыя ходзікі. Знахар папрасіў заплаціць, перад тым як ён раскрые таямніцу скрадзенага часу. Янка выклаў грошы з гаманца на стол, знахар схаваў іх у кішэнь і сказаў, што на могілках, дзе пахавалі прах настаўніка, няма помніка з датамі смерці і нараджэння. І пакуль помнік на магіле не з'явіцца, у Янкі штодня будзе знікаць па пяць хвілін.

Калі на могілках з'явіўся помнік настаўніку з датамі нараджэння і смерці, Янка зноў наведаўся да знахара, сказаў, што цяпер у яго не знікае па пяць хвілін раніцай, і звярнуўся па параду, як вярнуць сабе скрадзены раней час. Знахар не стаў браць грошы з Янкі і даў яму параду проста так. Парада гучала так: «Усё варта рабіць своечасова, як гэта рабіў Імануіл Кант».

# КАРОЛЬ

На плошчу выйшаў голы Кароль. Зусім голы Кароль ішоў праз плошчу, а натоўп пазіраў на яго вялікімі вачыма і маўчаў. Парушыў маўчанне хлопчык: «А Кароль наш – голы!» Кароль спыніўся пасярод плошчы, павярнуўся да хлопчыка і ўзняў правую руку. Здавалася, што праз імгненне гняўлівы Кароль аддасць загад – і шабля каралеўскага ахоўніка здыме з хлопчыка залатавалосую галаву. Так, напэўна, і здарылася б, каб не блакітнавокая дзяўчынка, якая закрычала на ўсю знямелую плошчу: «Паглядзіце! Вы толькі гляньце, які ў нашага дарагога Караля вялікі чэлес! У нашага Караля сапраўдны каралеўскі чэлес!» Кароль апусціў узнятую руку, ветліва ўсміхнуўся дзяўчынцы і пайшоў з расхваляванай плошчы. Натоўп уздыхнуў з палёгкай.

# КАРАЛЕВА

Самотны Кароль стаў няўважлівым. Раней, калі жыла Каралева, ён быў самым вясёлым чалавекам у замку. Цяпер Кароль маркоціўся, ён зрабіўся абыякавым да ўсяго на свеце і аднаго разу раніцай забыўся апрануцца. Устаў з ложка і, як быў голы, так і выйшаў на плошчу. Народ ажно знямеў, калі пабачыў голага Караля. Той стаў пасярод плошчы, ён стаяў, як помнік самому сабе. Людзі баяліся паварушыцца, баяліся нават дыхаць, толькі малы хлопчык крыкнуў: «Кароль голы!»

За хлопчыкам закрычалі, заенчылі і зарагаталі ўсе людзі, што былі тады на плошчы. Не рагатала, не енчыла і не крычала толькі адна артыстка, якая штодня спявала на плошчы сіроцкія песні і так зарабляла на кавалак хлеба. Артыстка падбегла да голага Караля і сарвала з сябе сукенку. Акрамя той сукенкі, на ёй нічога і не было. Светлае цела голай артысткі мела такую чароўную прывабнасць, што народ зноў знямеў ад здзіўлення. Голая артыстка ўзяла голага Караля за руку і завяла яго ў замак. Так звычайная артыстка, што спявала сіроцкія песні, каб зарабіць сабе на кавалак хлеба, і стала новай Каралевай.

# КАРЛСАН

Карлсан, які жыве на даху, уключыў наспінны прапелер, прыляцеў да Хлопчыка, сеў на падваконне і запытаўся: «Як ты думаеш, мой мілы таварыш, мой Хлопчык, твой найлепшы сябрук Карлсан – педафіл?» Хлопчык пяшчотна пагладзіў цёплы наспінны прапелер свайго найлепшага сябрука і адказаў сур'ёзным тонам: «Дарагі таварыш Карлсан, блуд ва ўсіх ягоных сутнасцях і праявах – не твой смяротны грэх. У цябе зусім іншыя недахопы і заганы, напрыклад ненажэрнасць і пыха. Так што супакойся, ты дакладна не педафіл!» – «Дзякую табе, мой мілы Хлопчык, ты мяне, як і заўжды, супакоіў! Палячу на дах і з'ем там шакаладку за тваё і маё здароўе!» – Карлсан бадзёра застракатаў наспінным прапелерам і ўзняўся ў бясхмарнае неба над Швецыяй.

# Кен

Муж Барбі Кен пачаў піць. Ён дапіваўся да поўнай секснямогласці. Таму Барбі завяла сабе каханка Бэна. Пакуль Кен здраджваў жонцы з бутэлькай, Барбі здраджвала мужу з Бэнам. Перад сексам Бэн любіў выпіць келіх шампанскага і з’есці некалькі апельсінавых долек. Ніхто і падумаць не мог, што можна задавіцца долькай апельсіна. Бэн змог. Долька пайшла не ў тое горла, перакрыла дыханне – і каханак сканаў. Барбі з дапамогай сякеры і нажа разабрала мёртвага Бэна на трыццаць тры часткі. Кожную яна старанна спакавала ў мяшок для смецця.

Мяшкі з разабраным трупам каханка Барбі паказала Кену. Той адразу працверазеў і дапамог у кожны з трыццаці трох мяшкоў пакласці па важкім камені. Мяшкі з Бэнам і камянямі павыкідалі ў акіян.

Пасля аперацыі з выкіданнем трупа Кен кінуў піць, вярнуўся да нармальнага палавога жыцця і збудаваў замак, бо жыць у доме, дзе на трыццаць тры часткі разабралі каханка Барбі, ён больш не захацеў.

# КЕНТАЎР І РУСАЛКА

Кентаўр палюбіў Русалку – і нарадзіўся ў іх Кентарыб. Русалка палюбіла Кентаўра – і нарадзіўся ў іх Русакент. Ні ў Русакента, ні ў Кентарыба нічога чалавечага не было, таму яны сышлі ў нетры ўсёпаглынальнай прыроды, сышлі і не вярнуліся. Кентаўр працягваў любіць Русалку, а Русалка няспынна любіла Кентаўра – і нарадзілася ў іх дзяўчынка Руся, якая стала спявачкай народных балад пра магію і смерць, пра каханне і зорку Венеру, што ўзышла над зямлёю і светлыя згадкі з сабой прынясла, пра вялікую любоў Русалкі да Кентаўра і бязмежную любоў Кентаўра да Русалкі.

# КЕНТАЎР І ПЕГАС

Сустрэў Кентаўр Пегаса. Так паэт сустракае музу. Так мастак знаходзіць натхненне. Так музыка чуе новую мелодыю. Пегас узрадаваўся сустрэчы і палюбіў Кентаўра, а каханне (ты ж ведаеш…) толькі ўзаемнае. Акрыленыя каханнем, Пегас і Кентаўр паскакалі па чыстым полі. Яны скакалі так доўга, што Пегас стаміўся. Тады Кентаўр пасадзіў Пегаса сабе на спіну. Ён скакаў і скакаў, ажно пакуль сілы не пакінулі яго. Тады Пегас пасадзіў Кентаўра сабе на спіну – і каханкі ўзняліся ў бясхмарнае неба, узняліся да высокіх зор.

Яны ляцелі ў зорным небе, месяц і сонца паказвалі ім дарогу да шчасця. Тое шчасце чакала каханкаў наперадзе, але яно і паўсюль было. Здавалася, што вялікае шчасце Пегаса і Кентаўра ніколі не скончыцца, што яно было, ёсць і будзе. (Ты ж ведаеш, што не варта сумнявацца. Варта верыць у каханне, як вераць у свабоду, роўнасць і братэрства…) Кентаўр сустрэў Пегаса, каб ніколі не развітвацца з ім, каб ніколі не расчароўвацца ў каханні і ляцець вечна.

# Кот у ботах і Людаед

Кот начысціў боты да бляску і пайшоў да Людаеда ў замак. Той пабачыў Ката ў бліскучых ботах і сказаў: «Ты цудоўна выглядаеш, святочна і апетытна, але я не ем катоў!» Кот заўсміхаўся і аксамітным голасам запытаў: «Шаноўны, а ці праўда, што ты можаш з чалавека перакінуцца ў вялікага звера?» – «Праўда!» – «Шаноўны Людаед, а ці не мог бы ты зрабіцца магутным ільвом?» Людаед падскочыў і проста ў паветры стаў ільвом і апусціўся на чатыры лапы. «Неверагодна! Цудоўна! Шыкоўна… Я ўсё жыццё буду ўсім расказваць пра цуд, які пабачыў на свае вочы! Усемагутны Людаед-леў, а ці не мог бы ты зрабіцца Коткай у белых боціках?» – «Прасцей простага!» – прарыкаў леў і высока падскочыў. У паветры магутны леў ператварыўся ў белую Котку ў белых боціках. Кот падышоў да Коткі і прапанаваў ёй лапку, буську і марцаванне. І Котка закахалася ў Ката на ўсё астатняе жыццё. Кот так ласкава адмарцаваў закаханую Котку, што яна вырашыла болей не перакідвацца ў крыважэрнага Людаеда. З таго часу Кот у ботах і Котка ў боціках жывуць разам у прасторным замку і гадуюць кацянятак.

# ЛЕД І БЕЛАЯ ЛЕБЕДЗЬ

Хлопчык Лед меў казачную прыгажосць. Пра такую прыгажосць кажуць, што яна для распусты. Кажуць і не памыляюцца. Народ ведае, як, што і калі трэба казаць. Цяпер вернемся да прыгожага Леда, які любіў вадаспады, азёры і ручаіны. Штодня хлопчык хадзіў на Лебядзінае возера, дзе любаваўся, як плавае Белая лебедзь.

Аднаго разу Белая лебедзь прапанавала хлопчку Леду злётаць да вадаспадаў. Той сеў на шыю Белай лебедзі, і яна занесла яго да вадаспаду. Яны купаліся ў возеры пад вадаспадам, там і злюбіліся. Пасля таго нечаканага злюблівання Белая лебедзь знесла залатое яйка. З таго чароўнага яйка вылупіўся золатавалосы хлопчык. Сын Леда і Белай Лебедзі атрымаў імя Ленін і стаў правадыром сусветнага пралетарыяту. Пралетарыят па ўсім свеце паставіў помнікі свайму правадыру Леніну, а яшчэ – сотні помнікаў-фантанаў прыгажуну Леду і ягонай каханцы, Белай Лебедзі.

# ЛЕДА І ЛЯМПАРД БАЛОТНЫ

Леда кахала Лебедзя белага, а ён любіў сваю жанчыну Леду. Жылі яны ўдваіх доўга і шчасліва, ажно пакуль у Леду не закахаўся Лямпард балотны. Тры дні і тры ночы Лебедзь белы і Леда думалі ды раіліся, што ім рабіць з драпежным каханнем Лямпарда балотнага. Прыдумалі яны простае выйсце – жыць утраіх.

Тры гады пражылі яны ўтраіх, і Леда нарадзіла Сфінкса з крыламі Лебедзя белага, з целам Лямпарда балотнага і з тварам чалавека неверагоднага хараства.

# Лем і Голем

Пражскі равін Леў з гліны зляпіў чалавека і назваў яго Големам. Той Голем быў памагатым у гаспадарцы. Насіў ваду, рабіў рамонты ў кватэрах і рамантаваў машыны. Голем лічыўся майстрам на ўсе рукі, яго хвалілі, але адной важнай штукі ў Голема не хапала. Таму пражскія жанчыны папрасілі равіна Льва зляпіць Голему чэлес.

Равін Леў паслухаў жанчын і зляпіў з гліны карліка з вялізным чэлесам і назваў яго Лемам. Таго Лема пасялілі ў сутарэннях пад сінагогай. Калі ў пражскай жанчыны ўзнікала патрэба ў сексе, а муж ці каханак не мог яе задаволіць, яна ішла ў сутарэнні да Лема. Праз нейкі час Лем зрабіўся модным, дарагі секс з Лемам лічылі карысным для здароўя.

Пражскія мужчыны пачалі напаўняцца рэўнасцю да Лема. Мужчыны напоўніліся рэўнасцю да самых краёў, пайшлі і разбілі гліняную галаву Лема, а яго вялікі гліняны чэлес растапталі на пыл. Пражскія жанчыны прасілі равіна Льва аднавіць Лема, але мудры Леў адмовіўся, бо не захацеў, каб пражскія мужчыны і яго самога растапталі на пыл.

# ЛЮДАЕД

Людаед у скверыку Янкі Купалы пабачыў прыгажуню і закахаўся ў яе з першага погляду на ўсё астатняе жыццё. Каля фантана з аголенымі русалкамі Людаед прапанаваў прыгажуні сваю руку, сваё сэрца і свой катэдж на беразе Мінскага мора. Прыгажуня падумала тры секунды і ўзяла катэдж, сэрца і руку Людаеда. Вяселле гулялі шматлюднае і шматпачварнае. Танчылі на ім вампіры і нячысцікі, нябожчыкі і прывіды, чэрці і русалкі.

Праз год пасля вяселля прыгажуня нарадзіла дачку-людаедку. Тая любіла свайго тату ўтрая больш, чым сваю прыгожую маму, таму страшэнна перажывала, калі праз сямнаццаць гадоў яе любы татка загінуў на паляванні. Тры гады дачка-людаедка і яе прыгожая маці аплаквалі тату, забітага срэбнымі кулямі ворагаў.

Пасля трох гадоў горкага плачу дачка-людаедка з’ела салодкае мяса сваёй маці, прыгажуні і веганкі. Ела не спяшаючыся, ела цэлыя тры тыдні. Матчыны скуру, косткі і валасы дачка-людаедка пахавала ў бацькаву магілу. Вярнуўшыся дамоў, яна тры дні

праспала салодкім сном, а прачнуўшыся, павесіла на сайце знаёмстваў сваё мілатварае фота і подпіс: «Дзяўчына шукае сур’ёзных адносін з хлопцам адпаведнага ўзросту. Секс, прынамсі аднаразовы, не прапаноўваць». Падобныя аб’явы на сайце знаёмстваў змяшчаў і яе тата-людаед, перад тым як пайсці на паляванне.

# Маленькі прынц

У Маленькага прынца ўсё было маленькае. Маленькія ножкі, маленькія ручкі, маленькія вочкі і маленькі носік. Жыў Маленькі прынц на Маленькай планеце.

Неяк каля яго Маленькай планеты на касмічным чаўне праляцела Вялікая прынцэса. Маленькі прынц закахаўся ў Вялікую прынцэсу, але ў той усё было вялікае. Вялікія вочы, вялікія грудзі, вялікая похва. У Маленькага прынца быў маленькі пыцік. З такім маленькім пыцікам не мела сэнсу прызнавацца ў каханні да вялікай похвы.

Маленькі прынц на касмічным чаўне паляцеў да Вялікага лётчыка. Прынц знайшоў лётчыка і спытаў у яго: «Вялікі лётчык, ты ўсё пра мяне ведаеш. Скажы мне, Вялікі лётчык… Калі я вырасту? Калі я зраблюся Вялікім прынцам з вялікім пыцікам? Калі я змагу прызнацца ў каханні да Вялікай прынцэсы?» Вялікі лётчык паглядзеў на Маленькага прынца вялікімі вачыма і адказаў: «Маленькі прынц, я цябе люблю, а таму не стану цябе падманваць. Ты застанешся маленькім хлопчыкам з маленькім пыцікам на-заў-жды…» З маленькага вока Малень-

кага прынца выкацілася слёзка. Вялікі лётчык пабачыў слёзку і сказаў: «Не плач, мой дарагі Маленькі прынц! Я намаляваў цябе, і я намалюю табе Маленькую прынцэсу».

# Мані-Мані Кен і Мані-Мані Барбі

Мані-Мані Кен набыў для Мані-Мані Барбі белую аблачыну. Барбі знямела ад захаплення – так моцна ёй спадабалася аблачына. Кен прапанаваў прылегчы на мяккую, як пуховая коўдра, аблачыну і палётаць у бясхмарным небе. Кен і Барбі ўзняліся ў неба і паляцелі над гарамі і лясамі, над палямі і марамі, над мястэчкамі і гарадамі. Яны ляцелі і займаліся тым, чым займаюцца маладыя і закаханыя. Кен любошчыў Барбі, а Барбі любошчыла Кена.

Яны так налюбошчыліся на аблачыне, што праз дзевяць месяцаў Барбі нарадзіла Міні-Барбі і Міні-Кена. Белую аблачыну Мані-Мані Кен прадаў, каб на атрыманыя грошы прыдбаць мэблю ў пакоі для Міні-Кена і Міні-Барбі. На грошы, што засталіся пасля пакупкі, Мані-Мані Кэн набыў глазіраваных сыркоў «Панда», каб з'есці іх разам з Мані-Мані Барбі за мятнай гарбатай і так адсвяткаваць змены ў жыцці.

# МАШЭКА І МАША

Машэка жыў у берлагу, як той мядзведзь. Бярлог хаваўся ў лясных нетрах. З лясных нетраў Машэка падыходзіў да шырокай дарогі, каб рабаваць багатыроў. Хаваючыся за соснамі і дубамі, рабаўнік Машэка падпільноўваў чарговага багатыра. Спыняў яго і абіраў да ніткі. Калі багатыр спрабаваў пярэчыць ці наважваўся біцца з рабаўнікам, той яго забіваў. Палову з нарабаванага ў багатыроў Машэка заносіў у бярлог, а палову раздаваў прыніжаным, пакрыўджаным і гаротным. Раздачай нарабаванага займалася каханка Машэкі – Маша. Яна складала спісы гаротных, пакрыўджаных і прыніжаных. Яна раздавала грошы, адзежу і харчы. Яна казала прыніжаным, пакрыўджаным і гаротным, што іх адорвае Машэка, які рабуе багатыроў і жыве ў берлагу.

Людзі любілі Машэку, складалі пра яго песні. У іх яны распавядалі пра каханне Машы і Машэкі. Абрабаваных багатыроў раздражнялі і злавалі такія народныя песні. Аднойчы раззлаваныя багатыры злавілі Машу. Яны яе гвалцілі, білі і катавалі. Маша не змагла вытрываць здзекі і паказала мес-

ца, дзе хаваецца ў лясных нетрах бярлог Машэкі. Вялікі атрад багатыроў акружыў Машэку. Ён змагаўся з багатырамі, як леў з гіенамі. Шмат багатыроў загінула ў той бітве. Загінуў у ёй і магутны Машэка. Яго цела багатыры пасеклі на кавалкі, паскідалі іх у бярлог і закідалі вапнай, каб яна спаліла ўсё, што яшчэ заставалася ад легендарнага Машэкі.

Скалечаная гвалтаваннямі Маша сышла жыць у лес. Недалёка ад месца, дзе быў бярлог Машэкі, яна выкапала зямлянку, і ў ёй пражыла да самай смерці. Кожны дзень Маша збірала камяні і насіла на магілу Машэкі. З камянёў склаўся высокі курган, які людзі называюць Магілай льва. Раз на год, у Купальскую ноч, на тым кургане можна пабачыць Машу і Машэку, а яшчэ можна ўбачыць, што яны шчаслівыя.

# МУРАМЕЦ

Асілак Ілья Мурамец сядзеў на лаўцы і пазіраў у акно. Ён так сядзеў цэлымі днямі, тыднямі, месяцамі і гадамі. Раніцай ён скочваўся з ложка, падпаўзаў да лавы, ускарабкваўся на яе і сядзеў увесь светлы дзень напралёт. Хадзіць асілак не мог, бо ногі меў слабыя, ватныя. Зразумела, што на ватных нагах не паходзіш, нават ад ложка да лавы, што стаіць пад акном, не дойдзеш.

Так было, пакуль маці не падаравала сыну-асілку бінокль. Праз той палявы бінокль Ілья пачаў падглядаць за дзеўкамі ды бабамі, што галяком купаліся ў рэчцы. Ад такіх падглядванняў кроў загарэлася, завіравала, закіпела ў целе асілка, чэлес яго пачаў паўставаць і напінацца і, што самае неверагоднае, ногі перасталі быць ватнымі, а зрабіліся моцнымі. Мурамец устаў на ногі, а потым і хадзіць пачаў, і бегаць, і на кані скакаць, і зрабіўся самым сапраўдным славянскім асілкам, які здатны змагацца і перамагаць разбойнікаў і разбойніц, рабаўнікоў і рабаўнічак, грабежнікаў і грабежніц, пагромшчыкаў і пагромшчыц, бандытаў і бандытак, ну і марадзёраў з марадзёркамі.

# МЮНХГАЎЗЭН

Раніцай барон Мюнхгаўзэн зазірнуў у люстэрка і сказаў яму: «Хопіць хлусіць! Хопіць падманваць! Хопіць несупынна лгаць!» Баранеса пачула голас барона і спытала: «Што гэта з вамі, дарагі барон?» – «Буду казаць праўду!» – «Якую такую праўду вы нам раскажаце, шаноўны барон?» – «Скажу… Скажу… Скажу, што ў мяне самы магутны чэлес ва ўсёй як ёсць Рызе!» – «Вам не павераць, мой любы барон!» – «А што зрабіць, каб людзі мне паверылі?» – «Зрабіце заказ скульптару, каб ён выштукаваў ваш цудоўны чэлес з мармуру. Я пакажу скульптуру сяброўкам – прынцэсам і баранесам, а яны раскажуць па ўсёй як ёсць Рызе, што ў вас самы вялікі чэлес у горадзе…»

Барон Мюнхгаўзэн замовіў у скульптара мармуровы чэлес, які мусіў быць памерам з чэлес барона. Скульптар падумаў і зрабіў мармуровы чэлес крыху даўжэйшым і трохі таўсцейшым, чым у жывога Мюнхгаўзэна, і такім чынам барон Мюнхгаўзэн зрабіўся ўладальнікам самага магутнага чэлеса ў багатым на дзівы горадзе Рызе.

# НЕВІДЗІМКІ

Чалавек-невідзімка, чалавек-невідзімка... Усе пра яго чулі, а ніхто яго не бачыў. Зразумела: як пабачыць тое, чаго зусім не відаць? Ёсць сакрэт! Невідзімку можа пабачыць сляпы. Гэта не зусім тое, што бачаць звычайныя вочы, але значна лепш, чым нічога. Таму Чалавек-невідзімка пасля ўсіх сваіх злыбедаў і злыпрыгодаў уладкаваўся на працу ў лонданскае таварыства сляпых, там ён і знайшоў сваё вялікае каханне. Мо не такое і вялікае, як у звычайных людзей, але выбар у Чалавека-невідзімкі быў абмежаваны таварыствам сляпых.

Секс са сляпой жонкай ішоў спраўна. Праз які год у Чалавека-невідзімкі нарадзілася дачка, як ты здагадваешся, таксама невідзімка. Калі верыць яе сляпой маці, дзяўчынка атрымалася чароўная. З чароўнай дзяўчынкі вырасла чароўная Жанчына-невідзімка. Яна стала самай знакамітай, самай запатрабаванай і самай дарагой прастытуткай у Лондане. Шмат каму хацелася пакаштаваць любошчаў з Жанчынай-невідзімкай. Сярод яе кліентаў былі такія багацеі і багацейкі, што праз пару га-

доў цяжкай працы ў распусным Лондане Жанчына-невідзімка знікла. Лондан шукаў яе, ды не знайшоў. Казалі, што яна пераехала ў сонечную Грэцыю, на невялікую выспачку, і там, каля цёплага і празрыстага мора, вядзе ціхае жыццё тарціяркі. Адным словам, Жанчыну-невідзімку юрлівы Лондан больш не бачыў.

# НЕПТУН

Русалка здраджвала Нептуну. Стары, сонны, лянівы Нептун даведаўся пра здраду ўвішнай, маладой, юрлівай Русалкі. Пра гэта наспяваў яму лупавокі Марскі канёк. Наспяваў, што ў цёмнай пячоры Русалка падстаўляецца Васьміногу. Той доўга лашчыць Русалку гнуткімі шчупальцамі, масіруе ёй спіну, а потым ужо і любошчыць пругкім чэлесам ва ўсе дзірачкі.

Песня Марскога канька пра масажна-любоўныя забаўкі ў глыбокай пячоры не спадабалася Нептуну. Ды так моцна не спадабалася, што ён схапіў Марскога канька сваёй зялёнай кіпцюрастай лапай і закінуў сабе ў іклатую пашчу. Нептун не стаў жаваць спевака, а проста пракаўтнуў яго. Будзе ведаць, як прыносіць марскому ўладару кепскія навіны! Здрадніца Русалка і яе палюбоўнік Васьміног таксама не пазбеглі пакарання. Нептун выгнаў іх з царства марскога, як некалі анёл выгнаў з райскага саду Адама і Еву. На пяшчаным беразе Русалка ператварылася ў прадаўшчыцу рыбы, а яе каханак Васьміног стаў садаводам. Помслівы Нептун прайшоў спецыяльны курс грунтоўнага амаладжэння і завёў новую жонку – салодкагалосую Сірэну, якая паклялася захоўваць яму вернасць.

# Нос

Нос, як і ўсе звычайныя Насы, любіў Ружы. Ён кахаўся з Ружай рубінавай, любошчыўся з Ружай лімоннай, бавіў час з Ружай чайнай і з Ружай белапялёсткавай. Нікога не дзівіла, што Нос кахаецца з Ружамі, усіх здзівіла тое, што аднойчы Нос закахаўся ў Пятку. І сапраўды: чаму ў Пятку? Нос і сам не мог сказаць, чаму ён пакахаў простую, наравістую і капрызлівую Пятку, якая праславілася тым, што ўсім навокал пагражала… Ты ведаеш, як Пятка ламае нос? Пагавары яшчэ, паспрачайся – і ты даведаешся, як ламаюцца косткі Насоў пад ударамі Пяткі! Нос не ўслухоўваўся ў пагрозы. Ён мыў Пятку ў цёплай вадзе, шараваў-шліфаваў пемзай і змазваў гаючым крэмам ад трэшчын. Нос любіў Пятку па-сапраўднаму, па-чалавечы.

# НЯЗНАЙКА

Нязнайка прапанаваў Кнопачцы пазаймацца сексам. Кнопачка адмовілася. Нязнайка на імгненне сумеўся, а потым выправіўся ў Сонечны горад, на вуліцу Чырвоных ліхтарыкаў. Там, у шыкоўным бардэлі, на ложку шакаладнай мурынкі Мур-Мур ён і страціў цнатлівасць. Разам з цнатлівасцю Нязнайка страціў і сто еўра наяўнымі.

Вярнуўшыся з Сонечнага горада, ён распавёў Кнопачцы пра эратычную прыгоду на вуліцы Чырвоных ліхтарыкаў і паабяцаў, калі яна саспее да ўзаемнай любові, падзяліцца з ёй набытым сексуальным вопытам цалкам бясплатна. Кнопачка задумалася…

# ПАН-ЛЕС

Жылі-былі дзед і баба. Жылі-былі і трахаліся. Пратрахаліся яны трыццаць тры гады, а дзіця не нарадзілі. У царкву хадзілі, у касцёле свечкі ставілі, па дактарах ездзілі… Ніхто ім не дапамог, акрамя вядзьмаркі, якая сказала, што трэба ім пайсці ў лес, там патрахацца і папрасіць, каб Пан-лес даў дзіця.

Паехалі баба і дзед у лес, распрануліся, патрахаліся на посцілцы пад ялінай і папрасілі ў Пана-леса дзіця. Калі прасілі дзіця, каля іх ног праскакаў заяц. Пэўна, таму праз дзевяць месяцаў у дзеда з бабай нарадзіўся зайцагаловы хлопчык. Хлопчык хутка вырас і захацеў ажаніцца, толькі хто з дзяўчат пойдзе за мужчыну з заячай галавой.

Зноў дапамагла вядзьмарка, яна падказала бабе схадзіць у краму «Карона», знайсці касірку Тамару і прапанаваць ёй выйсці замуж за хлопца, якога падарыў свету Пан-лес. Тамара не доўга вагалася, прыняла малапрыстойную прапанову і стала жыць з зайцагаловым мужам.

Аднаго разу яна пабачыла, як муж зняў заячую галаву і пайшоў у душ мыцца. Пад

заячай галавой у мужа была звычайная чалавечая галава з правільным тварам. Пакуль муж прымаў душ, Тамара бразнула заячую галаву аб падлогу – і тая рассыпалася на тысячу залатых манет. Так Тамара разбагацела і займела прыгожага мужа з правільным тварам, а дзеду з бабай яна купіла невялічкі дамок, які глядзеў вокнамі на чарадзейны Пан-лес.

# ПАПЯЛУШКА

Папялушка таму і Папялушка, што можа рабіць надзвычайнае са звычайным белым, як снег, попелам. Папялушка ўзяла з печы жменьку белага, як цукровая пудра, попелу і пасыпала сабе на галаву. Здарылася дзіва: з бруднай, шэрай і мурзатай дзявулькі Папялушка ператварылася ў чысцюткую прынцэсу. Такой прынцэсе трэба не месці земляную падлогу ў сялянскай хаце, а варта танцаваць на паркеце ў каралеўскім палацы.

Так і здарылася, бо Папялушка-прынцэса паляцела на белай лебедзі ў палац, дзе танцавала з прынцам на бліскучым, як лёд, паркеце. Калі яны натанцаваліся да стомы, то пайшлі ў прыбіральню. Там Папялушка і паказала прынцу сваю белую попу. Прынц закахаўся ў попу Папялушкі-прынцэсы з першага погляду і прапанаваў ёй сваю руку і сваё сэрца. Папялушка дастала з кішэні жменьку белага, як какаін, попелу і пасыпала яго на схіленую галаву прынца. Абсыпаны попелам прынц ператварыўся ў самага сапраўднага магутнага караля. Папялушка-прынцэса выйшла замуж за караля – і яе цудоўная попа зрабілася каралеўскай.

# ПЕНЕЛОПА І АДЫСЕЙ

Багі не любілі Адысея і паслалі яго да веліканаў-людаедаў. Паслалі, каб яны забілі і з’елі яго. Багі сказалі Адысею, што веліканы добрыя і што яны аддадуць яму чарадзейны пярсцёнак, які трэба прывезці ім. Чарадзейнасць пярсцёнка была ў тым, што чалавек, які надзяваў яго на палец, цалкам страчваў усе водары і пахі – і ніводны сабака, ніводная жывёла, ніводны вораг не маглі яго ўнюхаць. Адысей расказаў жонцы Пенелопе пра сустрэчу з багамі і пра чарадзейны пярсцёнак і выправіўся ў падарожжа на выспу да людаедаў.

Дваццаць гадоў Адысей быў у падарожжы. Ён даплыў да выспы, людаеды забілі і з’елі палову каманды карабля Адысея, але палова каманды ўсё ж выратавалася. Адысей забраў у веліканаў чарадзейны пярсцёнак і разам з паловай каманды змог пакінуць выспу.

Вядома, сам бы Адысей не здолеў уратавацца. Яму дапамог бог Апалон, які пашкадаваў героя і наслаў трохдзённы сон на ўсіх веліканаў-людаедаў.

Толькі праз дваццаць гадоў Адысей вярнуўся дадому, дзе яго ўжо ніхто не пазнаў.

У доме Пенелопы ішло баляванне. Жаніхі прыйшлі сватацца да яе. Пенелопа паабяцала, што выйдзе замуж за таго, хто пройдзе жорсткі іспыт цыбуляй. Кожны з жаніхоў павінен быў з’есці цэлую цыбуліну, а Пенелопа мусіла паспрабаваць пацалаваць смярдзючага жаніха. Калі з кімсьці ў яе ўсё ж атрымаецца пераадолець гідлівасць, той і стане яе новым мужам.

Адысей сказаў, што ён паўдзельнічае ў спаборніцтве, і з’еў самую вялікую цыбуліну. Адысей спаборніцтва выйграў, дзякуючы чарадзейнаму пярсцёнку, які знішчыў смурод. Пенелопа пацалавала Адысея, і яны пайшлі ў спачывальню. Там Пенелопа нарэшце пазнала свайго мужа. Яны распрануліся і злюбіліся. Голая Пенелопа сказала голаму Адысею: «Нішто так моцна не скарачае шлях жонкі да аргазму, як доўгая адсутнасць мужа!» Голы Адысей паабяцаў голай Пенелопе, што больш не будзе падарожнічаць, а чарадзейны пярсцёнак ён са словамі ўдзячнасці перадасць найдабрэйшаму з багоў – Апалону.

# ПЕРСЕЙ І ГАРГОНА МЕДУЗА

Ваяр Персей адсек галаву пачварнай гаргоне Медузе, а варта было адным разам паадсякаць галовы і ўсім паскудным гадаўкам – гарганаўткам.

# ПЁТР

Голая натуршчыца стаяла на подыуме. Яна пазіравала скульптарам у акадэміі мастацтваў. Майстэрня скульптараў месцілася на першым паверсе, і ў ёй было халаднавата. Калі апрануты і працуеш, дык і няма праблем, а калі стаіш цалкам голы, дык можна замерзнуць і прастудзіцца. Натуршчыца прастудзілася і чхнула. Звычайная з'ява. Толькі натуршчыца чхнула так няўдала, што нешта ў яе прыгожай галоўцы парвалася і яна памерла.

Натуршчыца памерла голай і голай патрапіла пад райскую браму да апостала Пятра. Той спытаўся ў голай жанчыны: «Як ты сябе адчуваеш, дарагая?» – «Халодна мне. Мерзну. Замерзла старэшэнна…» – «Зараз я знайду, што табе апрануць, каб сагрэцца…» – «Апранаха не дапаможа… Добра было б пазаймацца палкімі любошчамі з якім добрым хлопцам. Дарэчы, вы таксама мне падыходзіце… Давайце, спадар Пётр, мы палюбошчымся, і я сагрэюся…» Пётр падумаў, зірнуў на неба і загадаў хворай натуршчыцы: «Прачынайся!» Яна прачнулася ў майстэрні скульптараў, саскочыла з подыума, накінула халат і сказала, што хоча папіць гарачай гарбаты, бо страшэнна замерзла.

# Робін Гуд

Робін Гуд пapляваў на вастрыё стралы. Не так і часта ён пляваў на вастрыё. Ён пляваў толькі ў самыя адказныя моманты свайго жыцця. У лёсавызначальныя моманты. Якраз такі момант быў, калі вольны стралок захацеў знайсці сабе жанчыну. Робін вырашыў пусціць у неба стралу, а тая мусіла апісаць дугу і апусціцца каля абранніцы. Менавіта страла павінна была знайсці для найлепшага ў свеце стралка адпаведную яму пару. Некалькі гадоў Робін Гуд пражыў сярод лясных людзей, і за гэтыя гады ў яго ні разу не было жанчыны. Таму ён моцна хваляваўся, і пляваў на вастрыё стралы, і пускаў яе ў неба так высока, як толькі мог.

Страла паляцела, узнялася, апісала дугу і стала падаць ледзь не ў мора. У нейкае імгненне Робін Гуду падалося, што страла зараз упадзе ў марскую хвалю і яе схопяць русалкі. Але страла ўпала не ў мора – яна апусцілася каля дома рыбака і засела ў дошцы на ганку. У тым доме рыбака жыла маладая ўдава Мэры, чый муж пайшоў у мора і не вярнуўся. Рабацкі карабель трапіў у шторм і патануў разам з камандай, выратаваўся

толькі юнга, у якога хапіла сіл даплыць да берага. Удава рыбака, пачуўшы пра гібель мужа, праплакала тры дні і тры ночы, а потым вярнулася да будзённых спраў, бо якраз будзённасць і выратоўвае ад меланхоліі і маркоты. Самотная Мэры жыла бедна, удзень працавала прадаўшчыцай рыбы, а ўвечары падпрацоўвала прачкай у пральні і труляльёнкай у карчме.

Калі на ганку ўдавы з’явілася страла Робін Гуда, жанчына падумала, што гэта неба паслала ёй знак. Зрэшты, так яно і было. Так Робін Гуд знайшоў сабе жанчыну Мэры, да якой стаў прыходзіць раз на тыдзень, у пятніцу, каб пераначаваць і пазаймацца жыццястварэннем.

# Русалка і Рыбачок Базыль

Рыбачок Базыль пачуў, што яго суседка Стэфа нарадзіла мёртвае дзіця. Тое нехрышчонае дзіця бабы загарнулі ў пялюшку і закапалі на могліцах. На месцы пахавання на жоўтым пяску бабы выклалі са скочак зялёны крыжык. Баба Разэля была сярод тых, хто закопваў у пясок нехрышчонае немаўля. Яна і сказала ўнуку Рыбачку Базылю, каб не лавіў рыбу паблізу ад могліц, на могліцы не хадзіў і, крый Бог, не таптаў крыж, выкладзены з зялёных скочак.

Малы і дурнаваты Рыбачок Базыль пайшоў на могліцы, знайшоў свежае пахаванне і патаптаў крыж са скочак. Не моцна так патаптаў, але разы са тры пляснуў гумовым ботам па крыжы. З могліц, што ляжалі на пагорку, парослым ядлоўцам, Рыбачок Базыль спусціўся да рэчкі. Ён закінуў вуду на глыбокае месца, пад старую вярбу. Зазвычай у тым месцы добра бралася срэбнабокая плотка.

Гэтым разам замест плоткі з глыбіні на паверхню выплыла доўгавалосая Русалка. Яна выйшла з рэчкі, падышла да Рыбачка Базыля і праспявала: «Хлопчык, хлопчык,

пайшлі са мною… Пайшлі, пайшлі на бярозе калыхацца!» Рыбачку Базылю жах як спадабалася белацелая аголеная Русалка, з яе доўгімі – ажно да пят – пяшчотна-зялёнымі, як тыя скочкі на могліцах, валасамі. Дурнаваты хлопчык кінуў вуду і пайшоў з Русалкай да бярозы. Яны ўзлезлі на галіну і пачалі на ёй калыхацца. Яны калыхаліся і гушкаліся так, што ў Рыбачка Базыля закруцілася галава. Хлопчык нават не адразу пачуў, як Русалка пачала яго казытаць і заказытваць. Русалка закалыхала, загушкала і заказытала Рыбачка Базыля ажно да смерці. Так яно і мусіла быць, бо ўсе ж ведаюць, што Русалкі – гэта душы нехрышчоных дзяцей, якіх бабы пахавалі на могліцах.

# САМ-САМ

Патрэбна дапамога? Трэба, каб усё зрабілася як найлепш? Хочацца, каб памылак атрымалася як найменш? Пакліч Сам-Сама. Ён не адмовіцца дапамагаць. Вядома, можа крыху пакапрызіць і паныць. Можа пачаць дамаўляцца пра нейкую ўзнагароду-падарунак ці пра ласунак-пачастунак, але не адмовіць дакладна. Сам-Сам заўжды прыходзіць на дапамогу. Ён і ў працы найспрытнейшы памагаты. Ён і ў любові не пакіне цябе і падтрымае. Ён і ў райскія сады дарогу пакажа. Ён і патанцуе з табой да знямогі. Так што не забывайся на Сам-Сама. Кліч – і Сам-Сам прыйдзе і адчыніць табе любыя дзверы.

# Сіняя Барада і чырвоны ключык

Заможны паляўнічы меў вялікія сінія вочы і доўгую сінюю бараду. Яго так і клікалі – Сіняя Барада. На адным са сваіх бясконцых паляванняў Сіняя Барада сустрэў у лесе маладзенькую зялёнавокую сялянку. Ён закахаўся ў яе зялёныя вочы, а яна палюбіла сінія вочы паляўнічага. Згулялі вяселле.

Пасля шматлюднага шматдзённага вяселля Сіняя Барада сабраўся на паляванне. Ён паклікаў жонку і перадаў ёй сем ключоў – шэсць вялікіх і адзін маленькі. «Можаш адчыняць усё, што захочаш, вялікімі чорнымі ключамі, але нічога не адчыняй маленькім жоўтым ключыкам!» – сказаў паляўнічы і паехаў у лес, дзе ўпаляваў магутнага дзіка. Пакуль Сіняя Барада паляваў на дзіка, яго жонка адчыніла ўсё, што можна было адчыніць чорнымі ключамі, а потым паадчыняла ўсё, што можна было адчыніць маленькім жоўтым ключыкам. Калі маленькі ключык стаў адчыняць пустыя скарбонкі, ён пачаў чырванець і нарэшце стаў чырвоным, як свежая кроў.

Сіняя Барада прывёз дамоў упалляванага дзіка і папрасіў жонку вярнуць яму сем ключоў. Яна вярнула шэсць чорных ключоў і маленькі чырвоны ключык. «Ты адчыняла маленькім ключом мае скарбонкі?» – спытаў Сіняя Барада. «Так, я адчыняла ключыкам скарбонкі, але ўсе яны былі пустыя. Я нічога не брала з іх. Я нічога не паклала ў іх. Усе яны як былі пустымі, так пустымі і засталіся…» – «Ты не паслухалася мяне! Ты мне здрадзіла з чырвоным ключыкам! За гэту здраду я пакараю цябе тым, што праганю са свайго дому!» І паляўнічы прагнаў непаслухмяную здрадніцу з дому, а тая, помсцячы, прыдумала пра яго страшную казку, у якой садыст і аб’юзер Сіняя Барада зарэзаў ажно сем сваіх непаслухмяных жонак-здраніц.

# Сіняя Барада

Чуў, што гвалтаўнік Сіняя Барада, які забіў сем жонак, яшчэ дзеля смеху заказытаў да смерці казу.

## Сіняя птушка

Шэры верабей прачнуўся, высунуў дзюбу з гнязда, што хавалася ў падстрэшшы старога крытага саломай гумна, і пабачыў на высокай бярозе Сінюю птушку. Верабей не змог не закахацца ў Сінюю птушку, і ён у яе закахаўся. Стомленая доўгімі пералётамі птушка так хацела адпачыць у цёплым гняздзе, што пагадзілася на няроўны шлюб з Шэрым вераб'ём. Ён тут жа згвалціў стомленую нявесту, згвалціў так, што яна страціла прытомнасць і прабыла ў змрочнай непрытомнасці ажно тры дні і тры ночы. Юр Шэрага вераб'я быў такі неўтаймоўны, што ён гвалціў Сінюю птушку нават тады, калі яна ляжала ў гняздзе непрытомная.

Паціху Сіняя птушка акрыяла, набралася сілы і выкінула Шэрага вераб'я з утульнага і цёплага гнязда. Верабей спрабаваў вярнуцца ў гняздо, абяцаў птушцы паводзіць сябе ціхамірна і сціпла, але тая не верыла абяцанням і не падпускала да сябе і да гнязда паскуднага гвалтаўніка.

Аднойчы раніцай Шэры верабей прачнуўся, высунуў дзюбу з-пад лопуху, пад якім начаваў, і пабачыў на залатой бярозе Сінюю

птушку. Яна развітальна памахала вераб'ю сваім акуратным і дагледжаным крылом і ўзнялася ў сіняе неба. Шэры верабей вярнуўся ў сваё гняздо, але пасля той раніцы ён ніколі не быў шчаслівым, бо шчасце яго знікла ў высокім небе разам з Сіняй птушкай.

# Смерць

Смерць завітала да электрыка Льтокава і папрасіла ў яго каштоўную частку цела, каб не сыходзіць з гасцей галоднай. Электрык павагаўся і адшкадаваў галоднай Смерці безыменны палец левай нагі. Другім разам Смерць сыходзіла з вялікім пальцам, адгрызеным ад правай нагі Льтокава. Трэцім разам Смерць адкусіла ад электрыка левую нагу ажно да калена.

У свой апошні візіт да Льтокава ненажэрная Смерць захацела адкусіць яго доўгі чэлес з яйцамі. Тады электрык замест чэлеса прапанаваў смерці ўсе свае зубы, адно вока і палову страўніка. Смерць настойвала на чэлесе. Тады Льтокаў папрасіў Смерць, каб яна забрала разам з чэлесам і яго вялікае сэрца. Смерць узрадавалася і выканала апошняе пажаданне Льтокава. Так вось згарнулася ў трубачку і згасла жыццё сексалюбівага электрыка.

# Снежная каралева і Снежны кароль

Снежная каралева пакахала хлопчыка. Яна пацалавала яго, прытуліла да грудзей і абгарнула футрам. Яна перавезла каханага хлопчыка з горада ў палац і папрасіла скласці з ледзяшоў слова «вечнасць». Снежная каралева спадзявалася, што, пакуль яе каханы хлопчык будзе складаць чароўнае слова «вечнасць», ён вырасце, стане дарослым і зможа зрабіцца яе Снежным каралём. Як толькі каханы стане Снежным каралём, яны надзенуць новыя канькі і пачнуць катацца па ледзяным возеры, якое завецца Люстэркам розуму.

Спадзевы каралевы не спраўдзіліся, бо хлопчык быў слабым, меланхалічным і слязлівым. Ён плакаў, а яго слёзы падалі і падалі на ледзяшы. Кавалкі аблітага слязьмі лёду пашкадавалі хлопчыка і самі скласіся ў чароўнае слова «вечнасць». Хлопчык выканаў просьбу Снежнай каралевы і пайшоў у свой цёплы горад. А Снежная каралева засталася ў палацы, засталася на ледзяным возеры, якое завецца Люстэркам розуму, там яна і чакае новае вялікае і сапраўднае каханне.

# Снежны балван і Снегадурнічка

Снегадурнічка закахалася ў маркоўнаносага Снежнага балвана. Яна зазірнула ў яго вугальныя вочкі і пабачыла ў іх патаемнае жаданне займець банан. І Снегадурнічка падаравала каханаму вялікі банан. Ён так узрадаваўся банану, што ажно закахаўся ў вялікавокую Снегадурнічку. Каб замацаваць каханне, Снежны балван падараваў каханцы цёплую муфтачку з футра норкі. Каханкі пражылі разам доўгае шчаслівае зімовае жыццё, і від на жыхарства ў іх скончыўся ў адзін дзень.

# Хлопчык-пальчык

Муж часта ездзіў у камандзіроўкі. Яго жонка сумавала. Каб не ссумавацца, яна папрасіла мужа адрэзаць яго палец – мезенец на левай руцэ. З таго мезенца жонка зрабіла Хлопчыка-пальчыка, які навучыўся цудоўна танцаваць. Калі муж з’язджаў, Хлопчык-пальчык танцаваў на яго голай жонцы. Асабліва ўдала ў Хлопчыка-пальчыка атрымліваліся танцы на цыцках. Ён круціўся вакол пругкіх смочак, як самы сапраўдны віхор. Так Хлопчык-пальчык, муж і жонка пражылі доўгае і шчаслівае жыццё з віхурыстымі танцымі і доўгімі грошадайнымі камандзіроўкамі.

# Цень

Таксіст пакахаў журналістку. У яго – сям’я з двума дзецьмі, у яе – муж і сын. Таму сустракаліся каханкі раз на тыдзень у аўторак на здымнай кватэры. У адзін з такіх аўторкаў пасля палкага сексу журналістка заўважыла, што таксіст не мае ценю. У яе ёсць цень, а ў яго няма.

«Ты бачыш, што ў цябе няма ценю?» – «Не пераймайся. Ёсць і ў мяне Цень. У таксі сядзіць, чакае…» – «Ты сур’ёзна?» – «Калі я табе хлусіў?» – «Чаму твой Цень у таксі?» – «На вуліцы халодны дождж, ён папрасіўся ў цёплую машыну… Ён мне не чужы, я дазволіў яму пачакаць у таксі… Што не так?» – «Ты жартуеш? Чаму твой Цень не з табой?» – «Выбачай… Ты яму не падабаешся, і секс з табой яму не даспадобы. Таму ён не ходзіць з намі на здымную кватэру…» – «Ты не жартуеш? Я не падабаюся твайму Ценю? Так?» – «Такая праўда…» – «Нафіг такую праўду! Нафіг цябе, і твой Цень нафіг…» Журналістка выйшла на вуліцу, раскрыла парасон і накіравалася да метро. А Цень глядзеў, як яна ідзе прэч, праз абсыпанае дажджынкамі шкло.

# Цмок

Цмок двума кіпцюрамі адшчыкнуў ад вогнішча пялёстак полымя і закінуў у зубатую пашчу. Вогненны пялёстак патанцаваў на кончыку вострага языка і пайшоў у нутро. Тады цмок адшчыкнуў новы пялёстак, каб і далей частавацца палымянай пякучасцю.

З дзяцінства цмока прывучылі да штодзённага паядання свежага агню, бо менавіта з пялёсткаў полымя ён чэрпаў моц, прыгажосць і здароўе. Праўда, праз харчаванне агнём мелася ў цмока і праблема. Ён па-вялікаму хадзіў вогненнымі шарамі, па-малому пускаў вогненныя струмяні, а сперма ў цмока была такой пякучай, што ніводная цмочка не пагаджалася на інтым з ім. Усе цмочкі ставілі перад цмокам умову: або ты ясі агонь – і не атрымліваеш любові; або ты кідаеш каўтаць полымя – і любоў маеш. Цмок спрабаваў кідаць любімы пачастунак, спрабаваў падманваць цмочак, чаго ён толькі не спрабаваў, але ўсе спробы змяніцца сканчваліся тым, што цмок двума кіпцюрамі адшчыкваў ад вогнішча пялёстак полымя і закідваў у зубатую пашчу.

# Чалавек-амфібія і Белая акула

Белая акула падплыла да Чалавека-амфібіі і запрасіла яго паплаваць разам. Яны плылі па Чорным моры і па праліве Басфор. Плылі па цёмных глыбінях і па бліскучых паверхнях. Плылі ў шторм і плылі ў штыль. Чалавек-амфібія і Белая акула плылі доўга і шчасліва, як плывуць героі праўдзівых казак. Яны плылі з вечнасці ў вечнасць.

# ЧАРЦЯНЯ І ЧАРТАЕДЫ

Дзяўчына паскардзілася мастаку на Чарцяня. Яно залезла ў кватэру праз акно, як малпа, і нашкодзіла. Павырывала кветкі з вазонаў. Некалькі сукенак запхнула ва ўнітаз. Альбом з малюнкамі Леанарда да Вінчы падрала на шкамуты. Мастака крануў здзек з Леанарда, і ён паабяцаў напалохаць Чарцяня так, каб тое больш не думала паскудзіць дзяўчыне.

Паабяцаў і зрабіў карціну «Чартаеды». Большую частку палатна займаў стол, пасярод якога стаяла вялікае блюда. На ім ляжала палова засмажанага Чарцяняці. Кавалкі смажаніны былі і на талерках, над якімі схіліліся пачварнатварыя Чартаеды. Каля кожнай талеркі стаяў вялізны келіх з віном колеру свежай крыві. Карціну з Чартаедамі мастак павесіў у кватэры дзяўчыны.

Пабачыўшы пачварных Чартаедаў, Чарцяня заскавытала, як параненая мартышка, і ўцякло. Пасля тых уцёкаў мастак забраў карціну ў майстэрню, а дзяўчыне на сцяне пакінуў маленечкую рэпрадукцыю з Чартаедамі: гэтага было дастаткова, каб запалохаць Чарцяня.

# Чорт і Баба

Неяк мне прыснілася казка пра Чорта, які пайшоў да Бабы. Так, мне, як і табе, сняцца казкі… Казкі сняцца ўсім. Бяда ў тым, што пераважную большасць тых казак я не памятаю, але гэтая не забылася. Помню, сніў, нібы сіні Чорт заскочыў у ложак да маладой белагаловай Бабы. Тая Баба казала, што стамілася страшэнна і не магла нават стаяць, а калі легла, не магла заснуць і спакойна ляжаць, бо яе ўсю трэсла адператамлення. Чорт супакоіў Бабу абяцаннем аблізаць яе з галавы да пят. Сказаў, што абліжа белае цела вялізным языком і гэтак супакоіць Бабу. Стаў аблізваць Бабу, аблізаў і прызнаўся, што стаміўся лізаць…

Пасля такіх казачных сноў я заўсёды дзіўлюся начынню ўласнай галавы. Адкуль што ў ёй бярэцца? Пэўна, з кніжак… Але з якіх? Каб хто падказаў…

# Чорт

У Мінску пайшла мода пісаць запіскі да Бога. Вядома, запіскі пачалі пісаць дзяўчаткі. Хлопцы такімі штукамі займацца не любяць. Дзяўчаткі пісалі запіскі і пакідалі іх пад камянямі каля касцёлаў. Лічылася, што ўначы Бог менш заняты, чым днём, таму запіскі траплялі пад камяні ў самы цёмны час ночы. Раніцай запісак пад камянямі ўжо не было. Дзяўчаткі думалі, што іх забірае Бог. Памыляліся наіўныя душы, бо іх збіраў і, не чытаючы, рваў на дробныя шматкі звычайны мінскі Чорт.

Аднойчы Бог запытаўся ў Чорта: «Чаму ты нішчыш запіскі?» – «Па-першае, Ты ведаеш усё. І ведаеш, што ў тых запісках дзяўчаткі просяць сабе зямнога, а не нябеснага кахання. І яшчэ – яны бессаромна выпрошваюць у Цябе сексуальных каханкаў. Па-другое, я страх як люблю рабіць людзям дробную шкоду. Па-трэцяе, я раблю Табе ласку, бо нельга назаляць Богу. Ты мусіш пагадзіцца: Богу нельга назаляць».

# Чыпаліна і Радысачка

Чыпаліна на Камароўскім рынку хадзіў, гуляў і знайшоў залатую завушніцу. Сам Чыпаліна завушніц не насіў, але іх насіла яго чырванашчокая сяброўка Радысачка. Чыпаліна адшукаў на рынку і купіў маленечкую каробачку, куды і паклаў знойдзенае золата. З каштоўнай каробачкай Чыпаліна завітаў да ўсмешлівай Радысачкі, паказаў ёй завушніцу і прапанаваў абмяняць золата на любоўную гульню. Чыпаліна нават спрабаваў пераканаць недаверлівую Радысачку ў тым, што зараз модна насіць менавіта адну завушніцу, як некалі насілі цыганы-канакрады. Радысачка не паверыла ў казкі пра новую моду і старых канакрадаў, але забрала ў Чыпаліна завушніцу і зрабіла яму спраўны мінет.

На наступным тыдні ўвесь Камароўскі рынак слухаў скаргі Радысачкі, бо ў яе шматаблічным і разнастайным палавым жыцці раней ніколі не здаралася такога цыбульнага вогненна-пякучага мінету.

# Юда і Хрыстос

Юда прадаў настаўніка. За срэбра, за грошы прадаў Хрыста. Таго асудзілі на смерць, укрыжавалі і забілі. Юда замітусіўся, запанікаваў і задавіўся ў пятлі... Вядомая гісторыя. Вядома і тое, што Хрыстос паўстаў з мёртвых. Людзі бачылі жывога Хрыста пасля яго гвалтоўнай смерці на крыжы. Вядома, як яны дзівіліся таму Хрысту, які памёр, а потым уваскрос. Дзівіліся і пераказвалі гісторыю пра дзіва ўваскрашэння.

Ёсць яшчэ і малавядомы фрагмент гэтай жа гісторыі... Пасля ўваскрашэння Хрыстос пайшоў да дрэва, на якім вісеў у пятлі мёртвы здраднік Юда. Хрыстос дастаў Юду з пятлі і вярнуў яму жыццё. Юда цалаваў ногі свайму настаўніку, прасіў даравання за здраду, плакаў ад радасці, што і ён уваскрос разам з настаўнікам. «Уставай і ідзі прэч. Няма табе даравання. Няма і не будзе. Ты будзеш бадзяцца па свеце беспрытульным, каб усе бачылі цябе і згадвалі пра недаравальную здраду. Ідзі...» – так Хрыстос казаў здрадніку. Юда ўстаў з пыльнай зямлі і, азіраючыся, пачаў сыходзіць. Тут Хрыстос спыніў яго, сказаўшы: «Стой!» Спыніў, па-

дышоў, задраў брудны хітон Юды, схапіў яго за чэлес і адарваў разам з яйцамі. Усё адбылося так хутка, што Юда нават болю не адчуў. Апошняе, што здраднік пачуў ад вялікага настаўніка Хрыста: «Пайшоў прэч!»

# Змест

Н



П



Р



С

**Глобус,** А.
К19 Пераказкі : Новыя гісторыі са старымі героямі / Адам Глобус. — Мінск : Энцыклапедыкс, 2024. — 124 с.
ISBN 978-985-23-0143-5

У кнігу мастака і пісьменніка Адама Глобуса «Пераказкі» сабраліся новыя гісторыі пра старых і ўсім вядомых герояў. Большасць герояў запазычаны з дзіцячых казак, але ўсе яны цяпер жывуць дарослым, поўным кахання і эротыкі жыццём; так што «Пераказкі» не трэба чытаць непаўналетнім і асобам з рухомай псіхікай. Гэта маленькая кніга разлічана на чытача з пачуццём гумару і на чытачку з прагай павесяліцца.
Адрасуецца шырокай чытацкай аўдыторыі.

**УДК 821.161.3-4**
**ББК 84(4Беи)-44**

